# Праграма КЕБІЧА Вячаслава Францавіча,

## кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

сацыяльна значнымі галінамі: паліўна-энергетычным комплексам, фінансамі, транспартам, сувяззю, навукай і адукацыяй, сацыяльным забеспячэннем, экалогіяй і прыроднымі рэсурсамі.

Прэзідэнтам і ўрадам будуць забяспечаны:

— кіраванне дзяржаўнымі прадпрыемствамі і сферамі, якія не падлягаюць прыватызацыі;

— рэарганізацыя і перапрафіляванне дзяржаўных прадпрыемстваў, зыходзячы з канцэпцыі стварэння новай нацыянальнай эканомікі;

— кіраванне дзяржаўнымі інвестыцыямі і субсідыямі;

— кіраванне занятасцю насельніцтва і працаўладкаваннем моладзі, не дапускаючы масавага беспрацоўя.

Будуць заканадаўча ўстаноўлены дакладныя і справядлівыя крытэрыі размеркавання фінансавых і іншых відаў рэсурсаў паміж цэнтральнымі і мясцовымі органамі ўлады.

**Грашова-крэдытная, фінансавая, валютная і падаткавая палітыка.**

У новай сацыяльна-эканамічнай сістэме арганізацыі грамадства і сацыяльна арыентаванай рыначнай эканоміцы банкаўскай сістэме адводзіцца значная роля.

Будзе ўдасканалена банкаўскае заканадаўства, укаранёна новая сістэма кіравання Нацыянальным банкам і грашова-крэдытнымі адносінамі ў інтарэсах развіцця эканомікі рэспублікі. Будзе забяспечана дзяржаўная падтрымка базавых і сацыяльна значных галін.

Рэалізую комплекс антыінфляцыйных мераў, у тым ліку:

— аднаўленне разбураных фінансава-эканамічных адносінаў;

— загрузку эфектыўных вытворчых магутнасцей;

— правядзенне індэксацыі пенсій і ўкладаў насельніцтва, абмежаванне росту цэн;

— увядзенне новага механізма крэдытавання эканомікі і насельніцтва;

— стымуляванне інвестыцыйнай дзяржаўнай дзейнасці;

— кантроль за фарміраваннем цэн і тарыфаў на асобныя віды харчавання і паслуг;

— развіццё зон свабоднага прадпрымальніцтва і гандлю.

Прыкладу ўсе намаганні для ўкаранення прагрэсіўнай сістэмы падаткаабкладання, развіцця фінансавых адносінаў і рынку каштоўных папер.

Будуць створаны ўсе ўмовы для прыцягнення валютных інвестыцый.

**Структурная перабудова прамысловасці.**

Першачарговая задача — прыпыненне крызісных з'яў і стабілізацыя вытворчасці. Стратэгічная мэта — уваходжанне Рэспублікі Беларусь у сістэму сусветнай гаспадаркі.

Будуць створаны ўмовы для стымулявання нарошчвання выпуску прадукцыі айчынных і замежных інвестыцый. Навукова-тэхнічны і вытворчы патэнцыял абароннай прамысловасці будзе зарыентаваны на навукаёмістыя тэхналогіі, тэхнічнае пераўзбраенне эканомікі, патрэбы сацыяльнай сферы, выпуск тавараў народнага спажывання.

Я асабіста ўзначалю работу па структурнаму пераўтварэнню гаспадарчага комплексу і не дапушчу банкруцтва прадпрыемстваў, якія выпрабляюць неабходную людзям прадукцыю, забяспечу ім дапамогу і падтрымку.

Для фарміравання рынку і развіцця прадпрымальніцтва мной будуць гарантаваны свабода выбару напрамкаў і сфераў дзейнасці, уключаючы знешнеэканамічную, роўнасць суб'ектаў гаспадарання і падтрымка малога і сярэдняга бізнесу ў інтарэсах усяго грамадства.

Асаблівую ўвагу ўдзялю прававой абароне і эканамічнай падтрымцы прамысловасці, сельскай гаспадаркі і прадпрымальніцтва, а таксама абароне нашых таваравытворцаў ад нерацыянальнага імпарту.

Будуць зніжаны падаткі на ўвоз сучасных тэхналогій, абсталяванне для сельскай гаспадаркі і прамысловасці, а таксама важных для насельніцтва спажывецкіх тавараў.

Пры пераходзе да рыначных адносінаў забяспечу дзяржаўны антыманапольны кантроль, не дапушчу адміністрацыйнага ўмяшання ў прадпрымальніцкую дзейнасць.

### ВЕРНЕМ ЗЯМЛІ ГАСПАДАРА — АДРОДЗІМ ВЁСКУ

Я гарантую дзяржаўную падтрымку сельскай гаспадарцы.

Лічу, што чалавек, які працуе на зямлі, павінен мець магчымасць свабодна рэалізаваць сваю прадукцыю і жыць дастойна за кошт сваёй працы. Кіруючыся гэтым прынцыпам, выступаю за пераход да сучаснай шматукладнай сельскай гаспадаркі, у якой узаемна дапаўняюць адна адну розныя формы ўласнасці — дзяржаўная, кааператыўная, прыватная.

Я за захаванне калгасаў і саўгасаў, падтрымаю іх добраахвотнае пераўтварэнне ў акцыянерныя прадпрыемствы. Я за фарміраванне надзейнай фермерскай структуры вытворчасці. Я за развіццё моцных асабістых падсобных гаспадарак і вызваленне іх ад падаткаў.

Забяспечу фінансавую падтрымку сельскагаспадарчых і аграпрамысловых прадпрыемстваў, увядзенне ў сельскай гаспадарцы толькі двух відаў падаткаў — дыферэнцыраванага на зямлю і на маёмасць.

Не дапушчу спекуляцыі зямлёй, адміністрацыйнага ўмяшання ў дзейнасць гаспадарак. Тут будуць дзейнічаць толькі эканамічныя рычагі, прынцып справядлівага парытэту цэн.

Кваліфікаваныя кадры вёскі — наша нацыянальная гордасць. Яны прызначаны забяспечыць патрэбу рэспублікі ў харчаванні. На іх плячах — правядзенне разумных пераўтварэнняў у вёсцы.

Лічу неабходным увесці дзяржаўнае фінансаванне перспектыўных галін сельскагаспадарчай вытворчасці — элітнага насеннягаводства і племяннай жывёлагадоўлі, вытворчасці льну, укараненне перадавых і экалагічна чыстых тэхналогій.

Я забяспечу сацыяльнае адраджэнне вёскі.

### УРАД ДЛЯ НАРОДА, А НЕ НАРОД ДЛЯ УРАДА!

Гэты прынцып нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага лічу асноўным пры фарміраванні новай сістэмы дзяржаўнага кіравання.

Лічу сваім свяшчэнным абавязкам забяспечыць безумоўнае выкананне Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь.

Буду дабівацца вяршэнства на практыцы не ўлады, а законаў, захавання правоў і свабод асобы, а не іх абмежавання дзяржавай, роўнасці ўсіх грамадзян перад законам незалежна ад займаемай пасады. Будзе забяспечана моцная дысцыпліна выканання прынятых законаў і рашэнняў на ўсіх узроўнях.

Я буду рашуча і паслядоўна весці бескампрамісную барацьбу са злачыннасцю і карупцыяй.

Кіруючыся Канстытуцыяй, я прапаную народу новы Кабінет Міністраў з ліку кампетэнтных, высокаадукаваных і аўтарытэтных людзей, адданых прынцыпам дэмакратыі, нацыянальнага суверэнітэту. Гатовы запрасіць у састаў урада лепшых спецыялістаў ад розных партый і рухаў.

### БЯСПЕКА ГРАМАДЗЯН І ДЗЯРЖАВЫ, ВЫРАШЭННЕ ПРАБЛЕМ ЭКАЛОГІІ — ГЭТА ПАРАДАК У НАШЫМ АГУЛЬНЫМ ДОМЕ

Прэзідэнт будзе гарантам бяспекі грамадзян і дзяржавы. Я ствару надзейную сістэму нацыянальнай бяспекі. Рэспубліка прыме ўдзел у сістэме калектыўнай бяспекі краін СНД. Будаўніцтва Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, падтрыманне іх боегатоўнасці будуць ажыццяўляцца ў інтарэсах народа ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і ваеннай дактрынай дзяржавы.

Буду цвёрда абараняць усімі законнымі сродкамі асабістую бяспеку кожнага грамадзяніна, кожнай сям'і, усіх суб'ектаў гаспадарання. Забеспячэнне бяспекі, законнасці, умацаванне правапарадку, абарона правоў чалавека — важнейшая функцыя прэзідэнта, прыярытэтная агульнанародная задача.

Катастрофа на Чарнобыльскай АЭС — буйнейшая ў гісторыі чалавецтва. Разам з усімі я заклапочаны экалагічным станам нашай дзяржавы.

Я выступлю ініцыятарам прыняцця Закона аб нацыянальнай экалагічнай бяспецы Беларусі. Буду дабівацца канцэнтрацыі ўсіх сродкаў і рэсурсаў, выдзяляемых рэспублікай і сусветным супольніцтвам, на ліквідацыю гэтай страшэннай беды, на аднаўленне здаровага навакольнага асяроддзя, вывад шкодных вытворчасцей.

Даб'юся, каб кожны чалавек меў права на судовую абарону і матэрыяльную кампенсацыю за ўрон, нанесены яго здароўю ў выніку шкодных экалагічных уздзеянняў.

Нам наканавана жыць на зямлі, якая апалена Чарнобылем. Я, як прэзідэнт, зраблю ўсё, каб у гэтых цяжкіх умовах не толькі захаваць нацыю, але і стварыць умовы для яе развіцця.

### САЦЫЯЛЬНУЮ ПАЛІТЫКУ — У ІНТАРЭСАХ УСІХ І КОЖНАГА

Фарміраванне новай сацыяльна-эканамічнай сістэмы арганізацыі грамадства немагчыма без моцнай дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі прэзідэнта.

Прапануемая мною новая сацыяльная палітыка прадугледжвае:

— захаванне сацыяльных заваёў народа, індэксацыю ў 1994—1995 гадах пенсій і ўкладаў грамадзян;

— стварэнне ўмоў усім працаздольным грамадзянам рэалізаваць права на працу з гарантыяй пры гэтым абароны іншых правоў і свабод;

— заканадаўчае рэгуляванне звышвысокіх даходаў праз сістэму прагрэсіўнага падаткаабкладання з мэтай ліквідацыі маёмаснага расслаення і эканамічнай няроўнасці грамадзян;

— заканадаўчую гарантыю пражытачнага мінімуму з вызначэннем дакладнага механізма яго змянення;

— павелічэнне аб'ёму ўводу жылля за кошт дзяржавы і іншых крыніц, гарантыя сацыяльна неабароненым грамадзянам Беларусі дзяржаўнага жылля.

Я выступаю за ўдасканаленне сістэмы пенсіённага забеспячэння. Асаблівую ўвагу ўдзялю ўвядзенню сацыяльных дапамог хворым, інвалідам, адзінокім маці і мнагадзетным сем'ям, дзецям-сіротам, маці загінуўшых сыноў, ветэранам.

Будзе ўкаранёна сістэма шматмэтавых крэдытаў для моладзі і маладых сем'яў: на атрыманне прафесіі і павышэнне кваліфікацыі, набыццё жылля, абзавядзенне маёмасцю.

Адной з важнейшых задач дзяржавы стане падтрымка прэстыжу сям'і, ролі жанчыны-маці — выхавальніцы нашых дзяцей. Ужо ў 1994 годзе ўвяду спецыяльныя дзяржаўныя мэтавыя ўклады для кожнага нованароджанага грамадзяніна Беларусі на набыццё жылля.

Асаблівая ўвага будзе ўдзелена ахове здароўя, павышэнню яе эфектыўнасці і якасці. Гарантую даступнае бясплатнае медыцынскае абслугоўванне для ўсіх слаёў і груп насельніцтва. Развіццё платных формаў аховы здароўя будзе ісці паралельна, не ўзамен дзяржаўнай бясплатнай. Будуць уведзены ў гэтай сферы новыя формы фінансавання, палепшаны пастаўкі медыкаментаў, абсталявання, якія выпускаюцца за кошт канверсіі, а таксама забяспечана павышэнне даходаў медыцынскіх работнікаў.

Дзяржава будзе гарантам кампенсацыі рызыкі ваеннаслужачых, работнікаў праваахоўных органаў, якія нясуць нялёгкую службу па забеспячэнню бяспекі народа і дзяржавы. Перад звальненнем у запас кожны ваеннаслужачы зможа прайсці перападрыхтоўку на грамадзянскую прафесію. Гарантую прадастаўленне льгот ваеннаслужачым у пенсіённым і жыллёвым забеспячэнні.

Асаблівую ўвагу ўдзялю праблеме занятасці моладзі. Будзе гарантавана працаўладкаванне выпускнікам ВНУ і тэхнікумаў. Памер стыпендыі студэнтам будзе ўстаноўлены не ніжэйшы за ўзровень мінімальнай зарплаты.

Унясу прапанову аб амністыі для асобных катэгорый грамадзян.

Буду падтрымліваць развіццё фізкультуры і спорту, алімпійскага руху. Мы ганарымся нашымі выдатнымі спартсменамі, алімпійцамі.

Важную ролю адводжу партнёрству паміж урадам, наймальнікамі і прафсаюзамі, іншымі грамадскімі інстытутамі.

### КУЛЬТУРЫ, АДУКАЦЫІ, НАВУЦЫ — ПРЫЯРЫТЭТНАЕ РАЗВІЦЦЁ

Вышэйшай каштоўнасцю нашага грамадства і дзяржавы павінен стаць чалавек! Рэспубліка Беларусь павінна ўвайсці ў сусветную сістэму адукацыі, навукі і культуры.

У сферы адукацыі я прапаную:

— стварэнне сістэмы сучаснага дашкольнага выхавання і школьнай адукацыі, накіраванай на фарміраванне высокамаральнай асобы, прывіццё духоўнасці, патрыятызму, павагі да бацькоў, старэйшага пакалення. Забяспечу значнае павышэнне даходаў настаўнікаў;

— развіццё адкрытай дзяржаўнай прафесійна-тэхнічнай адукацыі, дзе чалавек зможа атрымаць сучасную рабочую прафесію.

Моладзь на конкурснай аснове будзе мець магчымасць за кошт дзяржавы вучыцца ў дзяржаўных навучальных установах, а таксама ў вядучых замежных навучальных цэнтрах. Кожны навучэнец, які мае патрэбу, будзе забяспечаны інтэрнатам і зможа карыстацца льготай на аплату жылля.

Гарманічнае развіццё беларускай нацыі не ўяўляю ў адрыве ад вялікай рускай культуры, рускай мовы. Я выступаю за стварэнне адкрытага славянскага універсітэта. Падтрымаю развіццё школ з выкладаннем на нацыянальных мовах на аснове адзіных дзяржаўных праграм.

Буду дабівацца структурнай перабудовы навукі і канцэнтрацыі намаганняў галіновых і акадэмічных НДІ на вырашэнні прыярытэтных праблем. Забяспечу першачарговае фінансаванне фундаментальнай навукі на аснове дзяржаўных заказаў.

Гарантую навуковым работнікам дастойнае матэрыяльнае забеспячэнне, выплаты за вучоныя ступені, абарону аўтарскіх правоў вучоных і вынаходнікаў.

Стан культуры — паказчык маральнага здароўя нацыі!

Карыстаючыся ўсімі магчымасцямі, якія ёсць у прэзідэнта, буду дабівацца адраджэння ўсіх нацыянальных культур, беларускай мовы, традыцый, маральных каштоўнасцей, забяспечу захаванасць помнікаў культуры, архітэктуры, мастацтва і гісторыі.

Буду садзейнічаць стварэнню ў замежных краінах цэнтраў беларускай культуры, развіваць адносіны з беларускай дыяспарай.

Буду змагацца супраць пранікнення ў Беларусь нізкапробнай культуры, разбурэння навуковай, культурнай, інфармацыйнай прасторы.

Забяспечу дзяржаўную фінансавую падтрымку культуры, навукі, адукацыі.

### БЕЛАРУСЬ АДКРЫТАЯ ДЛЯ ЎЗАЕМАВЫГАДНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

У аснову знешняй палітыкі будуць пакладзены агульнапрызнаныя прынцыпы і нормы міжнароднага права, адмаўленне ад выкарыстання сілы і пагрозы прымянення сілы.

Умацаванне дзяржаўнасці, суверэнітэту, выкарыстанне геапалітычнага становішча Рэспублікі Беларусь — неабходная аснова ўваходжання Беларусі ў сістэму новых міжнародных адносінаў.

Першарадную ўвагу буду ўдзяляць умацаванню ўзаемавыгаднага палітычнага і эканамічнага саюза з Расіяй і Украінай — надзейнага ядра СНД, а таксама развіццю сяброўскіх, раўнапраўных адносінаў з усімі дзяржавамі.

Істотным крокам будзе інтэграцыя Рэспублікі Беларусь у еўрапейскую і міжнародную сістэмы палітычных і гандлёва-эканамічных адносінаў.

Выкладзеная праграма будзе рэалізавана ў два асноўныя этапы.

Першы — 1994—1995 гады — стабілізацыя эканомікі, выхад з крызісу, моцная сацыяльная палітыка ў інтарэсах людзей; другі — 1996—1997 гады — інтэнсіўныя структурныя пераўтварэнні эканомікі і дзяржаўнай будовы, раўнапраўнае сусветнае партнёрства, значнае павышэнне дабрабыту людзей.

## ДАРАГІЯ СУАЙЧЫННІКІ!

Кожнаму з нас у дзень выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь трэба будзе прыняць важнае рашэнне. Ад таго, каго вы выбераце прэзідэнтам, залежыць ваша будучыня, будучыня вашых дзяцей і ўнукаў.

Я ўсё сваё жыццё добрасумленна служу свайму народу. У ходзе падрыхтоўкі праграмы, сустрэч з людзьмі многае прыйшлося пераасэнсаваць і пераацаніць. Як вывесці Беларусь з крызісу? Як зрабіць жыццё народа бяспечным і шчаслівым? Вырашэнне гэтых праблем у многім прапанавана ў маёй праграме.

Думаю, што выкажу думку большасці суграмадзян, калі скажу, што сёння нам для выхаду з крызісу патрэбны моцная выканаўчая ўлада, дысцыпліна і адказнасць. У поўнай меры ўсведамляю, што ўсю адказнасць за ўвасабленне гэтай праграмы павінен узяць на сябе прэзідэнт.

Мой вопыт, паўнамоцтвы, дадзеныя Канстытуцыяй прэзідэнту, даюць мне ўпэўненасць у тым, што прапанаваная народу праграма будзе выканана.

Заяўляю аб сваім намеры канстытуцыйным шляхам атрымаць ваш давер на выбарах першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

23 чэрвеня вы зробіце свой выбар, правільнасць якога вам падкажуць вашы мудрасць, розум і сэрца.

# Тэзісы перадвыбарнай праграмы Станіслава ШУШКЕВІЧА,

## кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

## Дзяржаўнасць, дэмакратыя, рынак — шлях да дабрабыту

### НЕ РЭФОРМЫ ПРЫВЯЛІ ДА КРАХУ, А ІХ АДСУТНАСЦЬ

Наша Рэспубліка трапіла ў глыбокі крызіс, а зыходныя ўмовы былі на Беларусі лепшыя, чым у многіх іншых посткамуністычных дзяржавах. Па прыкладу Польшчы, Венгрыі, Чэхіі мы маглі б хутка рушыць да дэмакратычнага грамадства, цывілізаваных рыначных адносін, і ўжо зараз людзі жылі б лепш. Здавалася, так і будзе.

Мы заклалі падмурак дзяржаўнасці: абвясцілі незалежнасць, курс на нейтралітэт і бяз'ядзернасць, наладзілі добрыя адносіны з суседзямі. Больш як 100 краін свету прызналі нас афіцыйна. Каб прадухіліць катастрофу ад некантралюемага распаду СССР, мы выступілі ініцыятарамі стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў, якая дазволіла захаваць жыццёва важныя сувязі краін з агульным гістарычным лёсам.

Пачалося будаўніцтва новай эканомікі. Ствараліся вытворчыя кааператывы, арэндныя фірмы, першыя фермерскія гаспадаркі, жыццёвы ўзровень быў вышэйшы, чым у суседзяў. Усе памятаюць, як тыя прыязджалі за таварамі на Беларусь. Былі закладзены асновы духоўнага адраджэння нацыі, вернута да жыцця гістарычная дзяржаўная сімволіка, пашыралася сфера ўжывання роднай мовы, пачалі выходзіць незалежныя газеты і часопісы.

Пасля прыняцця законаў аб уласнасці, прадпрымальніцтве, замежных інвестыцыях, прадпрыемствах і аб банкаўскай дзейнасці патрэбны былі яшчэ, прынамсі, два рашучыя крокі да рынку — народная прыватызацыя і стабілізацыя беларускай грашовай сістэмы. Тады была б забяспечана належная прастора для стварэння новай эканомікі на карысць чалавека.

Чаму ж гэтага не адбылося? Галоўным чынам таму, што нельга правесці рэформы рукамі тых, хто ў іх не зацікаўлены. Нельга зрабіць рынак для простых людзей, захаваўшы прывілеяваную размеркавальную сістэму для кіраўніцтва. Рынак несумяшчальны з велізарным бюракратычным апаратам. Наменклатура адчула пагрозу страціць цёплыя месцы. Большасць яе не здольна працаваць па-новаму, не хоча зарабляць на жыццё нялёгкай працай, як простыя людзі, таму яна паўстала супраць рэформаў. Кансерватыўнае ядро Вярхоўнага Савета аж два гады тармазіла закон аб прыватызацыі і да сённяшняга дня не зрабіла нічога, каб спыніць інфляцыю. Наменклатура зрывала ўсе спробы дэмакратычных дэпутатаў, у тым ліку Старшыні Вярхоўнага Савета, абнавіць кіраўнічыя структуры, даць паўнамоцтвы новым людзям, якія ведаюць, што і як рабіць.

У выніку абвешчанае рэфармаванне эканомікі не адбылося. Старая сістэма гаспадарання развальваецца — новая не ствараецца. Большасць насельніцтва на вачах беднее. За апошнія 12 месяцаў цэны ўзраслі ў 21 раз, значна апярэдзіўшы рост заробку. За гады праўлення гэтага ўрада прамысловая вытворчасць зменшылася ўдвая, тое ж адбываецца з сельскай гаспадаркай. Валютны доўг Беларусі набліжаецца да 2 мільярдаў долараў.

Жахлівыя памеры набылі скрытае беспрацоўе, раскраданне дзяржаўнай маёмасці, злачыннасць. Спробы змагацца супраць чыноўнікаў-злодзеяў, патрабаваць сур'ёзных змен ва ўрадзе закончыліся адстаўкай Шыркоўскага, Ягорава, нарэшце Шушкевіча. Цяпер урад Кебіча мог кіраваць, як хацеў. І вось вынікі — за 3 месяцы курс беларускага "зайчыка" ў адносінах да долара і расійскага рубля ўпаў ў 4 разы, цэны ўзраслі ўтрая, капіталы вывозяцца за мяжу, наступіў поўны фінансавы крах. Замест рэалізацыі дагавора з Расіяй ад 6 верасня мінулага года ўрад, каб даць свайму кандыдату фальшывы козыр у перадвыбарнай гульні, падпісвае новы дагавор па аб'яднанню грашовых сістэм, які зроблены так непрафесійна, што не можа прынесці ніякіх эканамічных выгад ніводнаму боку. Страта самастойнасці, ператварэнне ў занядбаную, залежную ад расійскіх канцэрнаў правінцыю — вось доля, якую нам наканавала кіруючая каманда. І гэта замест выгаднага для Беларусі раўнапраўнага саюза з Расіяй на аснове ўсеаб'ёмнага міждзяржаўнага дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй, ідэя якога была сфармулявана ў камюніке аб сустрэчы С.С.Шушкевіча і Б.М.Ельцына 11 студзеня 1994 года.

Хопіць спекуляваць на пачуццях простых людзей, на іх натуральным жаданні сяброўства славянскіх рэспублік! Ніхто не супраць самых цесных адносін і з Расіяй, і з Украінай. Але злачынна ўводзіць народ у зман, рыхтаваць яму кабалу, прадаючы незалежнасць дзеля таго, каб захавала ўтульныя крэслы купка недзеяздольных, збанкрутаваных палітыкаў. Наменклатура хоча, як і раней, трымаць просты люд у падняволным стане. І хоць у свой час удалося канстытуцыйна і заканадаўча дэклараваць асноўныя палітычныя правы грамадзян, але на справе яны прыгнечаны выканаўчай уладай, якая манапалізавала сродкі масавай інфармацыі, падпарадкавала фармальна незалежны суд і пракуратуру. І зараз урадавы кандыдат у прэзідэнты пануе ў друку і эфіры, выцясняючы адтуль іншых кандыдатаў, на якіх, акрамя таго, дружна льюць бруд урадавыя выданні. Але народ ужо не той, што раней, ён адчуў сваю годнасць і павінен разабрацца, дзе хлусня, а дзе праўда, які шлях вядзе ў тупік, а які — да лепшай долі.

### ДА ДАБРАБЫТУ ПРЫВЯДЗЕ ЦЫВІЛІЗАВАНЫ РЫНАК

Беларусь — краіна працавітых і кемлівых людзей. Трэба развязаць ім рукі для вольнага гаспадарання, аддаць уласнасць, скасаваўшы заканадаўчыя абмежаванні і чыноўныя перашкоды. Адным словам, даць кожнаму магчымасць сваёй працай, ініцыятывай, прадпрымальнасцю забяспечыць дабрабыт сабе і сваёй сям'і. І тады самі людзі ператвораць Беларусь у квітнеючы край. Праводзячы палітыку рашучых рэформ пры ўдзеле і падтрымцы ўсяго насельніцтва, мы праз два гады забяспечым эканамічны рост. І праз тры-чатыры гады ў свеце будуць гаварыць пра беларускі эканамічны цуд, пра заможнае і вольнае жыццё яе людзей.

Вось асноўныя палажэнні эканамічнай часткі праграмы, якія, дарэчы, сфармуляваны яшчэ 8 месяцаў назад у дакладзе Старшыні Вярхоўнага Савета С.С.Шушкевіча на сесіі "Аб шляхах выхаду Рэспублікі Беларусь з крызіснай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі":

— неадкладна спыняем інфляцыю і ствараем працаздольную фінансавую сістэму на базе канверсоўнай грашовай адзінкі (калі Расія не пагодзіцца з аб'яднаннем грашовых сістэм на справядлівых умовах, то уводзім свае грошы). Моцныя грошы спыняць рост цэн, дадуць стабільнасць і ўпэўненасць у заўтрашнім дні;

— змяняем падатковую палітыку — да мінімуму змяншаем падаткі, каб стымуляваць вытворчасць. Вялікія падаткі прадыктаваны празмернымі расходамі. Таму скарачаем на трэць дзяржрасходы, але захоўваем і нават павялічваем выдаткі на адукацыю, навуку, культуру, ахову здароўя, ліквідацыю наступстваў Чарнобыля. Абавязваем усе дзяржустановы, мясцовыя органы ўлады публікаваць вынікі выканання сваіх бюджэтаў, каб даходы і расходы як ўсёй дзяржавы, так і яе структур былі навідавоку. Большую частку падаткаў пакідаем у мясцовых бюджэтах;

— шляхам народнай прыватызацыі спыняем "наменклатурную прыхватызацыю" і хутка ствараем у эканоміцы значны недзяржаўны сектар. Эфектыўна кантралюем дзяржаўную маёмасць. Ліквідуем перашкоды свабоднай гаспадарчай дзейнасці ўсіх прадпрыемстваў незалежна ад форм уласнасці. Дзяржаўнае рэгуляванне застаецца выключна на макраэканамічным узроўні і праз падаткі. Адмяняем большасць ліцэнзій і квот;

— пачынаем структурную перабудову сельскай гаспадаркі, арыентуючыся на сусветныя цэны і новы многаўкладны аграрны лад, заснаваны на канкурэнцыі пры поўнай свабодзе выбару форм гаспадарання і ўласнасці (калгас, саўгас, фермер, кааператыў, аграперапрацоўчае акцыянернае таварыства і г.д.);

— знешнеэканамічную палітыку накіроўваем на захаванне і пашырэнне рынкаў збыту і крыніц рэсурсаў, змяншэнне знешняга доўгу, стымуляванне замежных інвестыцый і ўкараненне сучасных тэхналогій. Забяспечваем у перспектыве свабоднае перамяшчэнне праз граніцы людзей, тавараў і капіталу. Усімі магчымымі сродкамі дамагаемся фарміравання на тэрыторыі ўсяго СНД плацежнага і мытнага саюза і справядлівых, раўнапраўных адносін з Расіяй;

— рашуча абнаўляем і скарачаем структуры ўлады і адкрываем дарогу новым таленавітым спецыялістам, ствараем механізмы дакладнага выканання законаў — дзяржава забяспечвае законнасць і парадак эканамічнай дзейнасці;

— рэалізуем адрасную (скіраваную перш за ўсё на сацыяльна неабароненых, тых, каму найцяжэй) палітыку неадкладнай матэрыяльнай падтрымкі насельніцтва, каб дапамагчы адаптавацца да новых умоў жыцця, у прыватнасці, перадаем частку дзяржмаёмасці ў пенсіённы фонд, цалкам кампенсуем абясцэненыя ўклады насельніцтва і рэчавыя чэкі.

У выніку рэалізацыі праграмы добра арганізаваны рэнтабельны дзяржсектар дапоўніцца значным мабільным прыватным, у эканоміцы з'явіцца сапраўдны свабодны гаспадар, які будзе клапаціцца аб росквіце прадпрыемства, аб інвестыцыях і будзе працаваць зыходзячы з доўгатэрміновых мэтаў. Нашы грамадзяне адчуюць сябе гаспадарамі сваёй зямлі, заводаў і фабрык.

Уласнік стане асновай эканамічнага росквіту і стабільнасці. За адзін год узнікнуць тысячы малых і сярэдніх фірм па вытворчасці харчовых і спажывецкіх тавараў. Гэта дазволіць стварыць сотні тысяч новых працоўных месц з добрай аплатай для моладзі і тых, каго скарачаюць з нерэнтабельных заводаў. Свабода гаспадарання выкліча інвестыцыйны і будаўнічы бум. Будуць будаваць не толькі катэджы, а і малыя вытворчыя прадпрыемствы, камунікацыі, і гэта, у сваю чаргу, ажывіць цэлую галіну будаўнічых матэрыялаў. Інвестыцыйная палітыка, і асабліва дазвол выкарыстоўваць грошы ад прыватызацыі ў адпаведных рэгіёнах, ажывяць дзелавую актыўнасць ва ўсіх рэгіёнах. У сваю чаргу, змяншэнне падаткаў і субсідый вытворцам дазволіць пераразмеркаваць грошы на карысць спажыўцоў праз істотнае павышэнне стыпендый, пенсій, заробкаў, але сінхронна з ростам вытворчасці. Пры мінімальным заробку ў 4 долары інфляцыю не спыніш, пакупной здольнасці не павялічыш, а без яе прадпрыемствы не запрацуюць. Мы пралічылі магчымасць ужо праз паўгода выйсці на ўзровень заробку у 100—150 долараў. Павышэнне заробку павялічыць пакупную здольнасць. А калі ёсць за што купляць, тады і канчатковая прадукцыя знаходзіць попыт — запрацуюць заводы.

Моцныя грошы, разумныя падаткі, свабода гаспадарання, добрыя заробкі, стымуляцыя зберажэнняў, фінансавая дысцыпліна прывядуць да стабілізацыі і росту беларускай эканомікі, зробяць заможнымі ўсіх, хто хоча і здольны працаваць, забяспечаць належны ўзровень жыцця ўсім, хто ўжо сумленна адпрацаваў сваё ці пазбаўлены магчымасці зарабляць самастойна (пенсіянеры, студэнты, інваліды і г.д.).

### ЯК ПАБУДАВАЦЬ ДЗЯРЖАВУ ДЛЯ ЧАЛАВЕКА

Да гэтага часу дзяржава (гэта значыць чыноўніцтва) пануе ў нас над асобай. Прасты чалавек застаецца дармавой рабочай сілай. Наша задача — стварыць такія ўмовы, каб грамадзянін, яго правы і свабоды мелі перавагу над інтарэсамі дзяржавы. Галоўнае прызначэнне дзяржавы — абараняць чалавека. Дзяржава павінна гарантаваць сапраўды роўныя магчымасці і свабоду гаспадарчай дзейнасці ўсім.

Галоўныя палажэнні нашай праграмы дзяржаўнага будаўніцтва:

— ахову правапарадку і барацьбу са злачыннасцю падымаем на еўрапейскі ўзровень. Ліквідуем у заканадаўстве супярэчнасці і хібы, якія спрыяюць карупцыі. Праваахоўныя органы павінны разграміць арганізаваную злачыннасць і спыніць карупцыю. Мы не будзем эканоміць на забеспячэнні праваахоўных органаў. У выніку гарантуем бяспеку грамадзян і іх маёмасці ад злачыннасці і чыноўнага ўседазволу;

— створым спрыяльныя ўмовы станаўлення шматпартыйнай палітычнай сістэмы. Завершым канстытуцыйныя пераўтварэнні, прыняўшы закон аб выбарах, і тэрмінова правядзем дэмакратычныя выбары новага парламента. Прымем закон аб мясцовых уладах, які б дазваляў грамадзянам ажыццяўляць сапраўднае самакіраванне. Дадзім ім магчымасць самім абраць кіраўнікоў мясцовай улады і надаць ім належныя паўнамоцтвы для эфектыўнага кіравання развіццём тэрыторый;

— забяспечым усталяванне грамадзянскага міру, ажыццяўленне грамадскіх пераўтварэнняў канстытуцыйным шляхам, роўныя правы ўсім прафсаюзам;

— будзем мэтанакіравана адраджаць і развіваць у кантэксце сучаснасці беларускую культуру і шанаваць гісторыю Беларусі. Нададзім больш увагі патрыятычнаму, маральнаму выхаванню моладзі, будзем умацоўваць традыцыі добразычлівага стаўлення да ўсіх нашых суседзяў, іншых народаў. Дзяржава стане гарантам сапраўднай свабоды слова і незалежнай дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі;

— прадоўжым шлях да сапраўднай незалежнасці Беларусі, самастойнасці яе знешняй палітыкі. Даб'ёмся, каб Рэспубліка Беларусь стала раўнапраўным партнёрам у сусветнай супольнасці. Працягнем актыўна пачаты пасля абвяшчэння незалежнасці працэс усебаковай інтэграцыі Беларусі ў Еўропу. Будзем умацоўваць ужо ўсталяваныя добрыя стасункі з Расіяй, Украінай, Літвой, Польшчай, іншымі краінамі СНД і Балтыі;

— забяспечым паслядоўнасць і незваротнасць крокаў да нейтралітэту і бяз'ядзернасці. І надалей не дапусцім удзелу Беларусі ў ваенных канфліктах. Мы вярнулі нашых дзяцей служыць у Беларусь — тут яны і будуць служыць. Даб'емся прызнання і гарантый нейтралітэту з боку вядучых краін свету.

### У ЧЫМ АДМЕТНАСЦЬ ПРАГРАМЫ

Па-першае, здаровае развіццё грамадства надзейна забяспечваецца вяршэнствам закона і права. Прэзідэнт стане гарантам дэмакратыі, свабоды і парадку. Усталюецца сумленная, маральная палітыка. Замест наменклатуры дзяржавай пачне кіраваць каманда энергічных прафесіяналаў, здольных у кароткі тэрмін вывесці Беларусь з крызісу. Будзе створана сістэма, пры якой усе чыноўнікі зразумеюць, што яны служаць грамадзянам і атрымліваюць заробак ад падаткаплацельшчыкаў.

Па-другое, эканамічнае заканадаўства паслядоўна перабудоўваецца на аснове ліберальна-эканамічнай канцэпцыі, каб стварылася цэльная сістэма законаў прамога дзеяння, што дадуць роўныя шанцы для ўсіх як падчас прыватызацыі, так і пры вядзенні гаспадарчай дзейнасці.

Па-трэцяе, забяспечваюцца хуткі тэмп рэформ і комплексныя механізмы ажыццяўлення іх этапаў: пераадоленне крызісу ў пачатаку 1995 года, стабілізацыя — на працягу 1995 года, эканамічны пад'ём — з 1996 года. Прыярытэты: першага этапа — абмежаванне інфляцыі на канец 1994 года да 7—10% у месяц, рэарганізацыя энергаёмістых і неэфектыўных прадпрыемстваў, прыватызацыя і рэструктурызацыя; другога этапа — фінансавая стабілізацыя, фарміраванне значнага недзяржаўнага сектара, стварэнне ўмоў для інвестыцый, ажыўленне дзелавой актыўнасці; трэцяга этапа — структурная перабудова, павышэнне жыццёвага ўзроўню. Галоўная задача на ўсіх этапах — павышэнне канкурэнтаздольнасці беларускіх тавараў.

Па-чацвёртае, ажыццяўляецца рашучая і абгрунтаваная пераарыентацыя прамысловасці на патрэбы чалавека, а не ваенна-прамысловага комплексу, хутка ствараецца грамадства дабрабыту. Наш курс — эканоміка для чалавека, і мы забяспечым усіх самым неабходным.

Па-пятае, гарантуецца сусветная падтрымка Беларусі і ўсталяванне роўных узаемавыгадных адносін з суседзямі.

Нягледзячы на катастрафічны стан нашай дзяржавы, мы не павінны апускаць рукі і губляць надзею. Мы не першыя, хто апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы. Усе цывілізаваныя працавітыя нацыі знаходзілі і знаходзяць выйсце. І мы прапануем вам пайсці па шляху Еўропы, Японіі, Паўднёвай Карэі. Ад вашага выбару залежыць будучыня Беларусі, будучыня кожнага з нас і нашых дзяцей. Дзейнічаць трэба рашуча і паслядоўна. Калі мы ўсю энергію, усе рэсурсы, усе намаганні, увесь інтэлект нацыі накіруем на працу, на стварэнне эканомікі для чалавека, то Беларусь зможа расквітнець ужо праз тры гады. Хопіць ваганняў, зваротнай дарогі няма, ніякая дапамога — ні расійская, ні заходняя — не выратуе нас. Толькі мы самі, закасаўшы рукавы, можам стварыць цуд. Усёй грамадой за працу!

